

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 1 (29). Студзень 1993 г. Цана 2 рублі




# ЦІ АДРОДЗІЦЦА СВЯТА?

Напярэдадні каталіцкіх святаў Божага Нараджэння ў абласным цэнтры адбылася першая ў беларускай гісторыі канферэнцыя па ўрбаністыцы. Кола праблемаў было даволі шырокім, ахоплівала не толькі ўласна Беларусь, але й усю еўрапейскую прастору, на якой існавала магдэбургскае права.

Чаму менавіта яно?

Бо якраз у мінулым годзе Віцебск адзначаў (тут, мусіць варта запытацца: «Як?») 395-годдзе надання гораду поўнага магдэбургскага права. Дата юбілейная і пагэтаму ёй і прысвячалася навукова-тэарэтычная нарада «Urbi et Orbi. Горад: гісторыка-архітэктурныя й культуралагічныя аспекты».

Горад... Места Віцебскае... Якое яно было? Што сабой уяўляе Віцебск цяпер? Адказ на апошняе пытанне ўдзельнікі навуковае імпрэзы атрымалі адразу ж, у першы дзень нарады наведаўшы глядзельную вежу ля аблвыканкама. Пэўна, то быў першы масавы агляд горада з гэтай будыніны «людзьмі з вуліцы». Не ведаю, якое ўражанне пра Віцебск склалася ў назіральнікаў. А вось аб вежы думка была такая: нашто яе збудавалі, калі толькі зрэдку выкарыстоўваюць па прызначэнню?

Але вярнуся да самае канферэнцыі. Распачаў яе віленчук Алег Дзярновіч глыбокім аналізам паўзбежнасцей ды асаблівасцей у складаным арганізме магдэбургскіх гарадоў розных еўрапейскіх рэгіёнаў. Цікавую дыскусію выклікаў гістарычны даклад «Горад у кантэксце спецыфічнага сярэднееўрапейскага супольніцтва XVI—XVIII стагоддзяў» Юрыя Шаўцова з Вільні.

Спадзяванне на тое, што горад Віцебск калі-небудзь зноў стане местам Віцебскім, выразіў у эсе «Семантыка горада; паміж міфам ды гісторыяй» віленскі культуролаг Ігар Бабкоў.

Пра стылёвыя асаблівасці й школу дойлідства нашага горада ў кантэксце беларускай архітэктуры распавялі Сяржук Харэўскі (Вільня) і Юры Якімовіч (Віцебск).

Галоўны мастак горада Валеры Рыбакоў расказаў пра фарміраванне архітэктурна-мастацкага вобраза гістарычнага цэнтра сучаснага Віцебска. Ягоны выступ стаўся нібы каталізатарам актыўнае гаворкі пра захаванне й адбудову шэрага помнікаў віцебскай даўніны.



Юры Бохан з Менску прааналізаваў сістэму планіроўкі беларускіх мястэчкаў XV—XVIII вякоў...

Думаю, чытач ужо атрымаў пэўныя ўражанні пра ход навуковых чытанняў. Пагэтаму напрыканцы маёй гамонкі паўтару пытанне: «Як жа адзначыў афіцыйны Віцебск юбілей надання гораду магдэбургіі? Ды амаль ніяк. Улады быццам забыліся й не чулі пра магдэбургскае права. І каб не нефармальны падыход некаторых працаўнікоў абласнога аддзялення Фонда культуры, то гараджане нават не ўспомнілі б пра гістарычную падзею віцебскай мінуўшчыны. Але саматужнае свята пячаткі горада,


(Заканчэнне на 6-й стар.).


*Нам пішуць з замежжа*

## НАБІРАЕ ПАШАНЫ

Перш за ўсё хачу шчыра Вам падзякаваць за бандэроль з некалькімі нумарамі газэты «Выбар», які я меў вялікую радасьць атрымаць поўнасьцю і ў добрым стане акурат адзін тыдзень таму назад... Газэты ўжо з цікавасьцю прачытаў і запасовыя нумары перадаў другім зацікаўленым беларусам, так што газета «Выбар» сапраўды набірае тут у нас вялікай пашаны.

**Алесь АЛЕХНІК,**
**Сіднэй (Аўстралія).**

## ТОЛЬКІ ЧУТКІ!

У апошні час па горадзе гулялі чуткі, быццам у Польшчы за рэкет затрыманы некаторыя прадстаўнікі сем'яў высокапастаўленых віцебскіх асоб. Каб праверыць, ці праўдзівыя гэтыя пагалоскі, наш карэспандэнт наведаў упраўленне ўнутраных спраў аблвыканкама. Як заявіў намеснік начальніка УУС М. Шастоў, ніякай інфармацыі на гэты конт у міліцыі няма. Дык няўжо дым без полымя?

**А.Б.**

*Весткі з раёнаў*

## Міратворцы

Летась у Міёрскім раёне ў Фонд міру сабрана 67874 рублі, або па два рублі на кожнага жыхара.

## Ліквідатары

У 1992 годзе ў Лепелі ліквідавана 400 рабочых мейсцаў.

## «Кулакі»

Колькасць фермерскіх гаспадарак на Пастаўшчыне дасягнула «гіганцкай» лічбы —29. Яны маюць 1021 га зямлі. Многія з фермераў набылі трактары, некаторыя —грузавыя аўтамабілі.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

*«Выбар» віншуюць*

## Шаноўныя сябры!

Віншую Вас з усімі зімовымі сьвятамі!

Жадаю Вам і Вашай газеце творчых посьпехаў, добрых чытачоў і арыгінальных, цікавых матэрыялаў!

З павагай

**Старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў. Менск.**

Рэдакцыя ў сваю чаргу складае віншаванні сп. А. Трусаву ў сувязі з выбраннем яго на пасаду старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ і жадае, каб Грамада й надалей працягвала лепшыя традыцыі беларускае сацыял-дэмакратыі пачатку стагоддзя.

## Шаноўная рэдакцыя!

Дазвольце павіншаваць Вас з калядамі і Новым годам!

Жадаю Вам і Вашай газеце ў гэтым Новым годзе поспеху і здароўя.

**Віктар СЦЯПАНАЎ,**
**г. Ворша.**

## Паважаная рэдакцыя!

Шчыра жадаю Вам поспехаў у Вашай нялёгкай справе. Каб Ваша газета стала хаця б штотыднёвікам і яшчэ лепш змагалася за адраджэнне нашага народа. Трымайцеся!

З пашанай

**І. ФУРСЕВІЧ,**
**г. Докшыцы.**

# ЕГО УБИЛА СИСТЕМА

**9 января ушёл из жизни Сергей РУБИН. Человек с обострённым чувством справедливости, талантливый социолог.**

**Такие люди, как он, не вписывались в железные рамки тоталитарного режима. Вначале система всячески дискредитировала его в глазах окружающих, затем отняла любимую работу. Ему в полной мере пришлось познать все тяготы и беды человека, лишённого куска хлеба.**

**Он тоже хотел видеть Беларусь свободной и счастливой. И своим активным участием в демократическом движении приближал это время.**

**Легко ранимый и внутренне незащищённый, Сергей РУБИН остался в нашей памяти как человек кипучей и неуёмной энергии, массы нереализованных прекрасных идей.**

**В нашем обществе, где по-прежнему серость и посредственность правят бал, где возможно горе от ума, не нашлось места для неординарной личности.**

**Когда-то Эрнст Хемингуэй сказал: «Человек не для того создан, чтобы терпеть поражения... Человека можно уничтожить, но его нельзя победить». Сергей ушёл из жизни непобежденным. Эта смерть—его последний протест против насилия над личностью.**

**Прощай, Серёжа! О тебе будут помнить все, кто тебя знал.**

**Борис ХАМАЙДА.**

# КУДЫ ПАДЗЕЛІСЯ КРЭДЫТЫ?

**На дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 2 снежня 1992 года ў раздзеле «Рознае» выступіў лідэр парламенцкай апазіцыі Зянон Пазьняк. У сваім кароткім выступе дэпутат раскрыў сутнасць антынароднай палітыкі ўрада і наменклатурнай большасці Вярхоўнага Савета.**

**«Выбар» звярнуўся з просьбаю да З. Пазьняка даслаць гэтае выступленне. Парламентарый пагадзіўся з нашаю прапановаю.**

Надыходзіць час, калі нашае беларускае грамадзтва пачынае ў поўнай меры перажываць вынікі вашай антынароднай палітыкі. Перажываць тое, аб чым мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, папярэджвалі вас на працягу гэтых двух з палавай гадоў, крытыкуючы вашы падыходы ў эканоміцы. Чарговае павышэньне цэнаў, што нядаўна адбылося,—не апошняе павышэньне. Цэны будуць падвышацца ў дзесяткі разоў, асабліва на зерне, нафту, энергарэсурсы, яны падымуцца да сусьветных ўзровень—сусьветны ўзровень для нас, вы ж будзеце прадаваць нашыя тавары за бясцэнак, спадары, так, як вы гэта робіце зараз, і так, як вам прадыктуюць дзяржавыманапалісты, ад якіх вы ў свайё бязьдзейнасьці не адступілі ні на крок, каб пазбавіцца ад залежнасьці.

Як і папярэджвалі, рублёвая зона «лопнула». Але вы робіце выгляд, што яна існуе. Зразумелая ваша паніка ў пятніцу пры абмеркаваньні паправак да Закона аб банках. Зразумелы страх старшыні Нацыянальнага банка Багданкевіча і нават яго гатоўнасьць прызнаць свае памылкі і вучыцца, як ён сказаў, у Апазіцыі. Але позна ўжо, спадары дэпутаты, вучыцца. Пасьля таго, як 29 кастрычніка бальшыня Вярхоўнага Савета, парушыўшы Закон, Канстытуцыю, правы чалавека, адхіліла рэферэндум і ўзурпавала ўладу, такая вучоба мае мала сэнсу, бо значэньне вашай законатворчасьці цяпер больш чым сумніцельнае. Трэ' было думаць тады, калі ваш карабель толькі нахіліўся, а не пасьля таго, як стаў на карму.

І не вінаватыя тут, спадары, ні Інстытут Крыбла, ні ЦРУ, ні НАТА, ні груца з макам. Вінаватыя вы. І я упэўнены, што рана ці позна вінаватыя за ўсё адкажуць.

Ні ўрад, ні бальшыня Вярхоўнага Савета не зацікаўлены, каб даць людзям магчымасьць атрымаць зямлю ў прыватную ўласнасьць, не зацікаўленыя ў замежных інвестыцыях у нашу эканоміку. Яно і зразумела. Тады ж пачне разьвівацца рынак, непадкантрольны ўраду і карумпаваным структурам.

А тым часам, адкідваючы інвестыцыі, урад набірае замежныя крэдыты. Дзе яны, гэтыя крэдыты, на што выкарыстаныя, як зрасходаваныя? Хто кантралюе іх выкарыстаньне ў структурах, дзе раскрадаецца ўсё?

Я разумею. Скончыцца кадэнцыя Вярхоўнага Савета і тэрмін дзейнасьці ўраду. Высокая наменклатура пойдзе жыць у свае катэджы з басейнамі, а замежныя крэдыты, што набраныя ўрадам і падзеліся немаведама дзе, гірай чыгуннай павіснуць на шыі беларускага народа, які будзе іх аддаваць вечна. Вось у чым яшчэ адна небясьпека гэтакай афрыканскай палітыкі.

У сувязі з гэтым мой дэпутацкі запыт да ўрада, прэм'ер-міністра і старшыні Кантрольнай палаты. Прашу даць звесткі ў лічбавых велічынях і матэрыяльным вымярэнні аб выкарыстаньні замежных крэдытаў Аўстрыі, Італіі, Кувейта, Расіі і іншых, узятых урадам Беларусі.

---

**Напрыканцы снежня ў Менску адбыўся II з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. На ім быў прыняты рад важных дакументаў. Дзве рэзалюцыі з'езду рэдакцыя «Выбара» прапануе ўвазе чытачоў.**

# Рэзалюцыя

## ПА ВАЙСКОВАМУ ПЫТАННЮ

З'езд адзначае, што прыняты Вярхоўным Саветам пакет ваенных законаў з'яўляецца заканадаўчым падмуркам стварэння Рэспублікай Беларусь уласных Узброеных Сіл. У адпаведнасці з патрэбамі рэспублікі адбываецца рэфармаванне былых злучэнняў Савецкай Арміі, распрацоўваецца канцэпцыя стварэння нацыянальнай ваеннай школы, вядзецца падрыхтоўка да прывядзення ўсяго асабовага складу да прысягі на вернасць народу Рэспублікі Беларусь.

Разам з тым, з'езд вымушаны адзначыць наступнае:

1. Падпісаныя ў ліпені 1992 года пагадненні аб супрацоўніцтве з Расіяй у вайсковай галіне ставяць пад сумненне магчымасці выканання Рэспублікай Беларусь міжнародных абавязацельстваў па вываду і знішчэнню ядзернай зброі, робяць складаным дасягненне абвешчанага нейтралітэту і неакрэсленым статус расейскіх войск на нашай зямлі, ускладняюць адносіны Рэспублікі з суседзямі.

2. Рэфармаванне Узброеных Сіл адбываецца марудна. Для большасці афіцэраў неабходнасць абароны суверэнітэту Рэспублікі Беларусь не зрабілася асноват матывацыі іх службовай дзейнасці.

3. Ва Узброенных Сілах працягваецца цкаванне патрыятычна настроеных афіцэраў-беларусаў, перш за ўсё сяброў БЗВ. Пры гэтым свабодна дзейнічаюць у войску і маюць падтрымку афіцыяльных колаў прадстаўнікі партый і рухаў, якія праводзяць антыдзяржаўную, антыбеларускую палітыку. Маюць месца выпадкі агітацыі ў вайсковых аддзелах на карысць суседніх дзяржаў. У сувязі з гэтым Узброеныя Сілы зараз не з'яўляюцца гарантам суверэнітэту, незалежнасці і стабільнасці ў Рэспубліцы Беларусь.

4. Не можа задаволіць тое, як вырашаецца пытанне па пераводу вайскоўцаў—нараджэнцаў Беларусі, якія праходзяць службу за яе межамі, на Радзіму. Дагэтуль не распрацавана дзяржаўная праграма вяртання вайскоўцаў, пераведзеныя вайскоўцы недастаткова абаронены сацыяльна, многія з іх адразу звальняюцца ў запас. Перапынены перавод вайскоўцаў-беларусаў з Расіі і Украіны.

5. Буйных памераў дасягнула карупцыя ў войску. Праведзеная павярхоўная кампанія барацьбы з ёй дала адмоўныя вынікі, бо не закранула вытокаў злачыннасці, а наадварот—злачынцы адчулі сваю поўную беспакаранасць. У той жа час звальняюцца з войска ўсе, хто падымае голас на барацьбу з карупцыяй і злоўжываннямі.

6. Галоўнай прычынай адмоўных працэсаў ва Узброеных Сілах з'яўляецца тое, што ў кіраўніцтве адпаведных структур Савета Міністраў і Міністэрства абароны знаходзіцца частка людзей, ад якіх нельга чакаць плённай працы па стварэнню Беларускага войска. Многія з іх непрыхільна ставяцца да беларускай дзяржаўнасці або замешаны ва злоўжываннях.

У сувязі з гэтым з'езд лічыць неабходным патрабаваць пераатэстацыі кіруючага складу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь упаўнаважанай на тое камісіяй з прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета, Кантрольнай палаты і грамадскасці.

З'езд даручае дэпутатскай фракцыі БСДГ выступіць з адпаведнай заканадаўчай ініцыятывай.

З'езд лічыць таксама неабходным выказаць падтрымку Беларускаму Згуртаванню Вайскоўцаў, прадстаўнікі якога вядуць ва ўмовах пастаяннага ўціску на іх нялёгкую працу па патрыятычнаму выхаванню ў войску, па барацьбе супраць злоўжыванняў, па дапамозе афіцэрам-беларусам, што намагаюцца вярнуцца на Радзіму.

---

РЭЗАЛЮЦЫЯ

# Аб барацьбе са злачыннасцю

Значны рост злачыннасці выклікае трывогу і заклапочанасць грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Гэты небяспечны працэс тлумачыцца шэрагам аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын.

Шлях, па якім ідзе наша Рэспубліка, гэта шлях пераўтварэнняў, шлях да рынкавай эканомікі. Новая справа не можа ісці гладка і без памылак. Таму, на нашу думку, Вярхоўным Саветам павінны быць прыняты заканадаўчыя акты, якія б устанавілі надзейную перашкоду росту злачыннасці. На жаль, Вярхоўны Савет не пажадаў абмеркаваць на 9 сесіі праект закона аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Не знайшлося месца для гэтага законапраекта і ў парадку дня 10 сесіі. У вераснёўскай пастанове Савета Міністраў, прысвечанай барацьбе са злоўжываннямі ў гаспадарчай сферы, канстатуецца той відавочны факт, што карупцыяй ахоплены эшалоны выканаўчай улады, што чыноўнікі раскрадаюць народную маёмасць.

Рост злачыннасці тлумачыцца не толькі недасканаласцю заканадаўства. Шматлікія факты сведчаць пра тое, што і існуючыя законы выкарыстоўваюцца праваахоўнымі органамі не ў поўнай меры. Людзі, якія наносяць страты эканоміцы Рэспублікі ў сотні тысяч і мільёны рублёў, атрымліваюць дысцыплінарныя спагнанні і плацяць сімвалічныя штрафы. Несумернасць злачынства і пакарання, невыкананне прынцыпу немінучасці пакарання пашыраюць кола крымінальных элементаў.

Выклікаюць трывогу факты карупцыі і змовы са злачынцамі супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

Перыяд лёгкага ды хуткага абагачэння праз раскраданне дзяржаўнай уласнасці, на нашу думку, празмерна зацягнуўся.

II з'езд БСДГ лічыць, што неадкладна трэба:

—прыняць законы аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй і ўнесці адпаведныя змяненні і дапаўненні ў Крымінальны кодэкс Рэспублікі;

—узяць пад асобы кантроль расходаванне дзяржаўных валютных сродкаў і замежных крэдытаў;

—узмацніць адказнасць прадпрыемстваў усіх тыпаў і форм уласнасці, а таксама грамадзян за ўтойванне прыбытку і няўплату падаткаў;

—павысіць статус падатковаи інспекцыі, вывеўшы яе з падпарадкавання Мінфіна Рэспублікі Беларусь;

—тэрмінова прыняць закон аб пракуратуры, на аснове якога вышэйшы орган наглядной улады атрымаў бы права выказвацца аб законнасці пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў;

—прыняць дадатковыя меры дзеля абароны Рэспублікі ад злачынных замахаў на жыццё, здароўе і ўласнасць.

З'езд рэкамендуе Цэнтральнай Радзе і фракцыі БСДГ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь настойваць на прыняцці адпаведных заканадаўчых актаў.

---

# За «круглым сталом» аб вострых праблемах

*У канцы мінулага года па ініцыятыве вучэбна-метадычнага цэнтра ў ПТВ-37 машынабудавання імя М. Шмырова прайшла сустрэча выкладчыкаў ды выхавацелей вучылішча з прадстаўнікамі дэмакратычных партый і рухаў места Віцебска.*

*Сябры Віцебскай Рады БНФ, гарадской філіі БСДГ, хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці і клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» распавялі пра мэты і задачы, якія стаяць перад гэтымі арганізацыямі, ахарактэрызавалі палітычную й эканамічную сітуацыю ў Віцебску і рэспубліцы, прапанавалі свае шляхі рашэння тых ці іншых праблемаў. Яны адказалі на шматлікія пытанні гаспадароў імпрэзы.*

**Б. БАРЫСАЎ.**



**На здымку:** адзін з момантаў сустрэчы.

# Вакол культурна-рэлігійнага жыцця





## Запрашаем на выставу



Напярэдадні каталіцкіх калядаў у Менску, у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі, адкрылася выстава віцебскага мастака Алеся Мемуса, дзе экспануюцца 30 акварэляў з цыклу «Сведкі», аб'яднаных пошукамі духоўнага зместу ў галіне нацюрморту.

Матэрыяльны свет, які стварае вакол сябе чалавек, і ў якім ён жыве, любіць і пакутуе, адбівае ў сабе яго пачуцці, духоўныя рухі, надзеі й мары. Калі ж сам чалавек знікае з твару зямлі, свет рэчаў, увасобіўшы ў сабе свет яго бытавання, назаўсёды застаецца сведкаю хвілінаў яго жыцця.

Нацюрморт—мёртвая натура. Мастак абвяргае гэты пастулат праз сваю філасофію рэчаў, знітаваўшы іх «лёс» з лёсам іх творцы. Тут разам з аспектамі арыгінальнае эстэтыкі паўстае і своеасблівая філасофія прасторы часу.

Выстава акварэляў Алеся Мемуса экспануецца на працягу студзеня. Запрашаем наведаць яе і зацікаўленных віцяблянаў, бо гэта ці не першая выстава віцебскага мастака ў мастацкім музеі Беларусі.

А. П.

**НА ЗДЫМКАХ: 1. «Прысвячэнне» (1990); 2. «Водбліск агменю» (1992); 3. «Рэха мадэрну» (1992).**

## ЮБІЛЯРАМ

Споўнілася дзесяцігоддзе працы часопіса «Мастацтва». За гэты час выданне стала не толькі тым, чым і павінна было стаць—з'яваю культурнага, мастацкага жыцця, але й апынулася ў духоўным авангардзе нацыянальнага Адраджэння. Не прэтэндуючы, зразумела, на выяўленне ўсіх тэндэнцый у жыцці «Мастацтва», лічым, што яно выбрала верны накірунак. Духоўны шлях вяртання ў Еўропу, дарогу Беларусі цывілізаванай, паказвае многім з нас «Мастацтва»...

**Рэдакцыя «Выбара».**

## Прыгажосць уратуе свет



**АЛЕНА (Віцебск).**

## ЦАРКОЎНЫ ХОР З ГЕРМАНІІ Ў ВІЦЕБСКУ

У Віцебскім гарвыканкаме адбыўся ўрачысты прыём у гонар царкоўнага хору «Кантарай» з нямецкага горада Ветцлар. Прыём адкрыў мэр Віцебска М. Федарчук, які каротка расказаў пра горад, аб сацыяльна-эканамічным становішчы. Гасцей вітала намеснік старшыні Віцебскага гарсавета Л. Аленская. У адказ нямецкі хор выканаў рэлігійную песню. Кіраўнік хору падзякавала за прывітанні. Кожны з гасцей атрымаў памятны сувенір. Прыём прайшоў у цёплай, дружалюбнай атмасферы.

А.Б.

## ХЛЕБ ДАРАЖЭЙ ВІДОВІШЧ

Зразумела, калі відовішча —спектакль Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа. Максімальная—пасля навагодняга павышэння—цана квіткоў на прэм'еры склала 25 рублёў, што меней кошту білетаў на многія кіна- і відэафільмы, а таксама на некаторыя гатункі хлеба.

## 400-ГОДДЗЕ СМЕРЦІ ВЯЛІКАГА ГУМАНІСТА

**Чатыры стагоддзі таму, 13 студзеня 1593 года, памёр Сымон Будны, беларускі гуманіст і асветнік, тэолаг і рэлігійны рэфарматар, філосаф, гісторык і паэт часоў Вялікага Княства Літоўскага.**

На жаль, дакладная дата нараджэння С. Буднага невядома. Мяркуецца, што ён з'явіўся на свет ў 1530 г. у сям'і дробнага шляхціца. Скончыў факультэт вольных мастацтваў Ягелонскага ўніверсітэта ў польскім Кракаве і, магчыма, тэалагічны факультэт Базельскага ўніверсітэта. З 1558-га Будны выкладаў па-беларуску катэхізіс у пратэстанцкай школе Вільні. З 1560 г. у Клецку выконваў абавязкі пратэстанцкага прапаведніка. Разам з Л. Крышкоўскім і М. Кавячынскім заснаваў у Нясвіжы друкарню і ў 1562 годзе выдаў «Катэхізіс», першую на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь беларускамоўную кнігу. У гэтай жа друкарні выпускаў і іншыя ксёнжкі.

Незадаволены памяркоўным характарам кальвінісцкага вучэння, ён заняў радыкальныя пазіцыі ў шэрагу пытанняў хрысціянства. Напрыклад, у 1563 г. паслаў у Цюрых швейцарскаму тэолагу Г. Булінгеру ліст, у якім раскрыў фармальналагічную нявернасць дагмату тройцы.



Сымон Будны
*(са збору А. Мемуса).*

З сярэдзіны 60-х гадоў Сымон Будны разгарнуў актыўную літаратурна-публіцыстычную і выдавецкую дзейнасць. Пераклаў з французскай на польскую мову твор Э. В. Фрыза «Аб фурыях, ці французскіх вар'яцтвах» пра падзеі Варфаламееўскай ночы.

Жыў у розных мясцінах Беларусі, апошнія гады правёў у Вішневе (цяпер Валожынскі раён), дзе і памёр.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

# Прытулюся да роднай маці-мовы

## РЭКТАР ПЕДІНСТЫТУТА В. ВІНАГРАДАЎ:

# «Я—за нацыянальнае Адраджэнне, але без перагібаў»

**«Выбар»:** Віктар Ніканавіч, як Вы адносіцеся да з'яўлення ў «Советской Белоруссии» і ў мясцовым друку пісьма ў Вярхоўны Савет Беларусі, у якім выкладчыкі і студэнты Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута патрабуюць надання рускай мове статуса дзяржаўнай і пратэстуюць супраць прымусовага, як яны выражаюцца, насаджэння беларускай мовы ў вучэбным і выхаваўчым працэсе?

**В. Вінаградаў:** Адносуся да гэтага ліста негатыўна. Яго ініцыятары выкарысталі для збору подпісаў час, калі я знаходзіўся ў водпуску. Вярнуўшыся на працу і даведаўшыся пра гэта пісьмо, я адразу накіраваў усім дэканам факультэтаў ліст, у якім выказаў сваю нязгоду з пісьмом.

Віцебскі педінстытут з'яўляецца бясспрэчным лідэрам сярод ВНУ горада па тэмпах нацыянальнага Адраджэння і курс на беларусізацыю будзе няўхільна праводзіцца. Іншая справа, што ў гэтым працэсе ўзнікае шмат цяжкасцей, як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных. Востра не хапае падручнікаў, метадычнай літаратуры на беларускай мове. Хоць многія выкладчыкі авалодваюць дзяржаўнай мовай і паспяхова чытаюць на ёй лекцыі. У нашым інстытуце працуе шмат выкладчыкаў, якія прыехалі з розных куткоў былога Саюза і якім цяжка ўжо ў сталым узросце пераходзіць на беларускую мову выкладання. Я ж за паступовы пераход на беларускую мову, але без перагібаў і магчымасці неапраўданай паспешнасці ў гэтай важнай справе.

**«Выбар»:** 3-га снежня «Віцебскі рабочы» перадрукаваў з «Правды» пісьмо выкладчыкаў, супрацоўнікаў, студэнтаў Вашага інстытута прэзідэнту Расіі Б. Ельцыну, у якім беларусы называюцца «спакон веку імперскім народам» і г. д. Ліст у «Правду» пранізаны сумам па вялікай Расійскай імперыі. Вашы адносіны да гэтага?

**В. Вінаградаў:** Аб змесце пісьма я даведаўся з газеты «Правда», як і іншыя чытачы. Як і ў першым выпадку, думкі, выказаныя ў ім, з'яўляюцца меркаваннямі толькі аўтараў, а не афіцыйнай пазіцыяй калектыва выкладчыкаў і супрацоўнікаў інстытута. Аўтары выказалі сваю палітычную пазіцыю. Гэта іх права. Я супраць праследаванняў па палітычных матывах. Гісторыя нам паказала, да чаго могуць прывесці такія праследаванні. Толькі час можа рассудзіць і паказаць ім памылковасць іх поглядаў.

**«Выбар»:** Дзякую за гутарку.

**Інтэрв'ю ўзяў А. ЯСНЫ.**

# Нашто капіраваць усе манеры?

Апошнім часам можна назіраць, як пасля разбурэння «жалезнай заслоны» хуткімі тэмпамі пачала «амерыканізавацца» сучасная расейская мова. Размытасць нацыянальнага пачатку ў духоўным патэнцыяле Расіі ў выніку яе працяглага імперскага існавання адбілася кепскім жартам на расейскай мове—праз палітыку і эканоміку яна «амерыканізуецца» хутчэй за заходнееўрапейскія мовы, нягледзячы нават на такую былцам бы сур'ёзную перашкоду, як адрозненні ў графіцы. Праглядаючы рэкламу ў расейскіх газетах, знойдзеш там і «офисы», і «траст-сертификаты», і «маркетинг». і «холдинговые компании», і «брокеров», і яшчэ шмат падобнага. У гэтай з'яве можна заўважыць спрадвечную расейскую манеру пераймаць знешнія рысы чужой цывілізацыі—калі «рубіць акно ў Еўропу», то абавязкова трэба і бароды галіць.

Цікава, што пры гэтым застаецца амаль некранутым цэлы пласт лексікі, які склаўся ў расейскай мове за час існавання ў дабальшавіцкай Расіі рынкавай эканомікі і некаторых дэмакратычных інстытутаў.

На старонках беларускіх газет дамінуе расейскамоўная рэклама, якая таксама чытаецца часам амаль як запісаны кірылічнымі літарамі англамоўны тэкст, цяжка зразумелы без спецыяльнага слоўніка. Такім чынам праяўляецца не толькі тое, што ў палітыцы, але й у эканоміцы мы рухаемся следам за Расіяй, старанна капіруючы ўсе манеры і кепскія звычкі «старэйшага брата». Апошні прыклад—«ваўчары» і «ваўчарызацыя».

Але гэтая з'ява стварае і пэўны псіхалагічны эфект—незнаёмыя і незразумелыя словы аддаляюць шараговага грамадзяніна ад палітычных і эканамічных працэсаў у краіне, становяцца ў нейкай ступені перашкодай яго ўдзелу ў гэтых працэсах, звужаючы такім чынам іх сацыяльную базу. І звычайна ўсё незразумелае і чужое сустракаецца варожа. Беларускамоўнай жа рэкламы пакуль вельмі мала (трэба адзначыць толькі прыемнае выключэнне—рэкламу фірмы «Дайнова»), таму зараз толькі вызначаецца шлях, якім пойдзе Беларусь у засваенні новых эканамічных з'яў і адпаведнай ім лексікі.

**Віктар СЦЯПАНАЎ,**
**г. Орша.**

## НЕ ТОЛЬКІ ЦЫТАТЫ

Там, дзе мела мейсца далёка ідучае скрыжаванне двух народаў, двухмоўе становіцца вельмі звычайнай з'явою, а разам з ім пачынаецца і ўзаемны ўплыў моў адной на другую. Калі пры гэтым адзін з народаў чымсьці перавышае іншы,—сваёй колькасцю, ці палітычнай і эканамічнай магутнасцю, альбо ў духоўных адносінах, —то ягоная мова пачынае ўжывацца ўсё шырэй, адцясняючы другую на задні план; урэшце рэшт двухмоўе зноўку змяняецца панаваннем аднае мовы. У залежнасці ад сілы супраціўлення, што аказвае пераможаная мова, гэты працэс можа адбывацца крыху хутчэй ці трошкі марудней, а сляды, якія пакінула гэтая мова ў мове-пераможцы, могуць быць больш ці менш глыбокімі.

**Пауль ГЕРМАН**
**«Принципы истории языка» (Масква, 1960), § 275.**

**Ад рэдакцыі:** Гэтыя словы вядомага нямецкага мовазнаўцы (1846—1921), на наш погляд, ярка раскрываюць сутнасць тых працэсаў, якія адбываліся на Беларусі за часоў чужацкага панавання. Некаторыя і зараз мараць пра дзяржаўнае двухмоўе, якое б давяло беларускую мову да стану пераможанай.



Фота А. Когаля.

Восеньскі вечар.

*Амаль сур'ёзна*

## ПРЫ ЎМОВЕ

Хто як, а я—за другую дзяржаўную мову. Толькі пры ўмове. Пры ўмове, што Расійская Федэрацыя пакажа нам прыклад (як і належыць «старэйшаму брату») і надасць татарскай статус дяржаўнай мовы. Вы здзіўлены? А што тут такога? Татары складаюць амаль 4% расіянаў. А гэта вам, хаханенькія-роднененькія, не сорак саракоў, а болей пяці з паловай мільёнаў. І жывуць яны не толькі ў Татарстане, але й у Башкартастане, Мары Эл, Удмуртыі, у Краснаярскім краі, Прыморскім... Ды і традыцыі. Яны (Залатая Арда) калісь уладарылі на Русі, а Расійская імперыя—тут, на Беларусі. Пагэтаму і трэба, каб былыя гаспадары пачуваліся камфортна, утульна, як і раней.

Пры ўмове...

**Бр. Малодшы.**

## ПАЧЫНАЮЦЬ З ПАРУШЭННЯЎ!

Чарговая карта Беларусі, на гэты раз аўтадарог, выйшла на менскай паліграфічнай фабрыцы. Гэта можна толькі вітаць, але мапа надрукавана на рускай мове. А апошняе з'яўляецца парушэннем арт. 34 Закона аб мовах, дзе сказана, што «картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Рэспубліцы Беларусь, рыхтуюцца і друкуюцца на беларускай мове».

**Ю. Т.**

*Пісьмо чытача*

Звяртаюся да Вас з тым, што вельмі набалела ў сэрцы. Вельмі прыкра глядзець на тое, як здзекуюцца з нашай роднай мовы, як не шануюць і хочуць утаптаць у гразь. Хоць і быў уведзены закон аб мовах, але ж яго не хочуць выконваць, патрабуюць увесці разам з беларускай мовай, нашай дзяржаўнай і адзінай, рускую мову. Паколькі ў нас яшчэ краіна завецца Беларусь, а людзі завуцца беларусамі, чаму дзяржаўнай мовай павінна звацца руская мова? Чаму ніхто не хоча размаўляць па-беларуску? Няўжо не засталося ў нас сапраўдных беларусаў? Я не фанатка, але ж калі ў нас Беларусь незалежная краіна, то тут павінна быць усё сваё, роднае. Няхай у нашай Беларускай краіне гучыць голас беларускага народа!

**З. ПАЎЛЮКЕВІЧ,**
**Віцебск.**

## Усе кропкі над... «ё»

Паціху-патроху, але болей візуальнай інфармацыі на беларускай мове ў нашым краі. Аднак яе якасць часта, на жаль, бывае нізкай. Працей кажучы, пішуць, але з памылкамі. І адна з іх, даволі характэрная,—пропуск кропак у літары Ё.

У адрозненне ад рускай мовы, дзе напісанне гэтага дыякрытычнага знака над літарай факультатыўнае, неабавязковае, у беларускіх словах мы **павінны** ставіць яго. Кропкі часта—не толькі паказальнік таго ці іншага гука, але й сэнсу слова. Напрыклад, варта параўнаць **елка** ды **ёлка**. Здаецца, значэнні надзвычай блізкія, аднак у апошнім выпадку—гэта ялінка, што ставім перад Новым годам у сваіх хацінах... Дзеяслоў **еду** і назоўнік у родным склоне **ёду**, **прыемны** і **прыёмны** і г. д.

Такім чынам, трэба ўважлівей ставіцца да дзяржаўнай мовы, каб не псаваць яе пакуль што кволае, няўстойлівае Адраджэнне памылкамі, у тым ліку й арфаграфічнымі...

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

Алесь МЕМУС

# СТВАРАЛІ ЦУДЫ РАЗЬБЯРЫ

(УСПАМІН ПЕРШЫ)



1. Гірлянда з кветкамі. Фрагмент аздобы разных дзвярэй. 1907 г. Са збору мастака А. Мемуса.



2. Капітэль. Фрагмент аздобы разных дзвярэй. Пачатак XX ст. Са збору мастака А. Мемуса.

Тэма нашага першага «Успаміна» (а мы сапраўды, як пасля цяжкай рэанімацыі успамінаем сябе і сваё былое, бо ўспомніць нам ёсць што)—адно з нашых слаўнейшых умельстваў, якое складала некалі славу беларусаў—мастацкая разьба па дрэве.

Так склалася, што вышэйшыя нашыя скарбы ў мастацтве разьбы па дрэве мінулых стагоддзяў дэманструе сёння тая ж Масква, і добра, што нарэшце (мо таму, што навука—рэч упартая і фальсіфікацыі доўга не церпіць) экскурсаводы таго ж Навадзявочага манастыра ці Каломенскага палаца цара Аляксея Міхайлавіча вымушаны прызнаць прыярытэт «беларускай рэзі» і беларускіх рэзчыкаў у аздабленні і распаўсюджванні цудоўнага мастацтва па ўсёй «белакаменнай» і ў XVI, і ў XVIII стагоддзях, адкуль яго разносілі майстры ўжо па ўсёй Расіі.

Так, мы ўмелі многае і многаму шчодра вучылі другіх, і гарады нашыя не гібелі ў бяспамяцтве і гістарычнай немачы як марнеюць сёння, як не гібеў і наш Віцебск, які яшчэ на пачатку XX ст. здзіўляў падарожнікаў свайго «лица не общим выраженьем». Бязлітасны час і невуцтва натхніцеляў «светлого будущего» сцёрлі той дзіўны твар, і вось у разгубленасці ды дзеля самаабароны мы мусім збіраць «чарапкі» ды шукаць сляды сваёй годнасці ды радавітасці.

Зірнём жа на рэшткі таго, што зберагглося, што захавалі і данеслі да нас чулыя сэрцы ды шчырыя рукі.

Неяк блукаючы вулкамі Пескаваціка, на дзвярах аднаго з дамоў заўважыў я два дзіўныя кавалкі драўляных карункаў. Убачыўшы ў акно маё замілаванне, да мяне выйшла старая кабета, ад якой я даведаўся, што карункі тыя—частка алтарнай агароджы касцёла св. Антонія, якія прынёс некалі дадому пакойны муж гаспадыні, падабраўшы на руінах узарванага храма... Маленькія сведкі велічнай гармоніі, створанай некалі натхненнем і боскім дарам нашым землякоў...

Карункі тыя дзіўныя кабета мне тады не прадала (вядома, памяць), а з часам і яна, і памяць тая зніклі ўжо бясследна.

Сёння ў адроджанай Пакроўскай царкве стаіць так-сяк намаляваны часовы іканастас, бо стварыць нешта сапраўднае няпроста, бо патрэбны вялікія сродкі, а найперш—вялікія намаганні шчырага і здольнага майстра. Ні сродкаў, ні патрэбнага майстэрства... А колькі знішчана храмаў, колькі рукатворнае красы нашых дзедаў і прадзедаў ператворана разам з іх душамі і іх імёнамі ў прах і попел! Урок, і напамін, і перасцярога і... пустыня на месцы квітнеючага сада, які ў людзей завуць «Стары горад».

Апошнюю разную красу (ды не толькі разную) у Віцебску знішчалі пад час апошняе «рэканструкцыі» старых кварталаў, якой кіравалі ўсё тыя ж варвары. Калі я ўпершыню прыехаў у Віцебск (то быў 1972 год) мае вочы бачылі яшчэ трычатыры прыклады цудоўных разных дзвярэй у старых асабняках, ды рэшткі гэткіх жа ліштваў на старых драўляных пабудовах. Ні тых пабудоў, ні тых дзвярэй даўно няма, добра што тое-сёе паспеў сфатаграфаваць, тое-сёе раскапаў у руінах. Зносілі і дабівалі няшчадна, як апошні дакор няўмельству і бяздушнасці пабornікаў «современности». Але сляды і сведкі тае красы існуюць (адкрытыя, а мо' яшчэ і не адкрытыя), бо іх збіралі і захоўвалі людзі чулыя, краязнаўцы і мастакі, тыя, хто збярог самапавагу, хто верыў у Адраджэнне. Лепшае і па-царску дасканалае загінула разам з віцебскімі храмамі, бо храм ва ўсе часы быў увасабленнем боскае красы ў чалавеку. Тое ж, што мы бачым на здымках, рэшткі багатай некалі вонкавай аздобы архітэктуры, якая надавала старому гораду (а ў суседзяў нашых надае і цяпер) непаўторны «арамат» часу, радавітасць і шляхетнасць, тую годнасць прысутнасці паўсюднай культуры, якой так бракуе сёння ў Віцебску, абрабаваным і прыніжаным шматгадовымі варварскімі адносінамі да яго гістарычнага сэрца.

Угледзьцеся ў стылёвую дасканаласць драўлянага грыфона часоў бытавання мадэрну ў нашым горадзе ці ў гірлянду разных кветак, што аздабляла адну з дзвярэй ансамбля старых дамоў на пляцы Волі. Зазірніце ў «твар» напаўзнявечанага разнога ільва на ацалелым картушы канца XIX стагоддзя, у якім жыве і чаруе таямніца душы старога Віцебска. Усе знакі любві да свайго дому, жаданне жыць у ім годна, быць цікавым заезджаму падарожніку (знай бо нашых!). Але і ўсё—знакі майстэрства, таленавітасці, годнасці (ды яшчэ запавету нашчадкам), на вялікі жаль, неацэненыя імі. Прабачце, шчырыя майстры, нашу здраду і наша невуцтва...

Парушанае і стаптанае можна ствараць нанова і трэба ствараць, але каб ствараць, трэба адчуць у сабе прагу самасцвярджэння, патрэбу самавызначэння ў свеце. Трэба ўспамінаць, успамінаць сябе (як пасля цяжкай рэанімацыі). Трэба, нарэшце, зразумець, што тое, што здабылі папярэднікі—не толькі іх, але і наш гонар, бо агульны вялікі Сэнс існавання Чалавека жыве адно толькі ў сукупнай Памяці пакаленняў, якую і складаюць разам здабытыя скарбы агульнага дому, імя якому—наш горад, стары і вечна малады.



3. Картуш з галавою льва. Фрагмент аздобы разных дзвярэй. Канец XIX ст. Са збору мастака Г. Шутава.



4. Грыфон. Фрагмент аздобы разных ліштваў. Пачатак XX ст. Са збору мастака Г. Шутава.

## Ісцец не разгубіўся

Твар Івана Іванавіча засвяціўся ад шчасця, калі ў зале прагучаў вердыкт суда аб накіраванні ягонай іскавой заявы да газетаў «Выбар», «Народная газета» і лёзненскай «Сцяг перамогі» на разгляд у народны суд Маскоўскага раёна Менска.

Менавіта гэтага й дамагаўся народны дэпутат Рэспублікі Беларусь І. Авін. Празмернасць пачуццяў, што распірала ягоныя шырокія грудзі, не перашкодзіла яму прама ў судовай зале павіншаваць слугаў Феміды з надыходзячым Новым годам.

Аднак апошнюю кропку над «і» ў доўгай спрэчцы аб падсуднасці паставіць, пэўна, абсурд, куды днямі паступіла прыватная скарга аднаго з адказчыкаў.

**В. ФЕМІДАЎ.**

*Гумарэска*

# Вялікая «муха»

Жыў я ды быў прарабам нейкай ПээМКа, аж пакуль да нас у кватэру не забег саноўны сваяк з вобласці. Пагаманіў ён са мной хвілін пяць, але, па яго словах, уведаў пра мяне ўсё галоўнае і важка вымавіў:

—Ты, хлопча, цяжкаравоз і працаголік, працуеш з цямна да цямна, вопраткі добрай не знасіў, як моль у шафе паела, а толку—толькі на пражыццё. Бо ўлада ў цябе маленькая, та нават не «муха», а так, «мошка», звініш, таўчэшся, а чаго—і сам не ведаеш... Ну ды ладна, памагу я табе ўстроіць кар'еру іншага характару.

І ўстроіў. Хутка я патрапіў на пасаду начальніка ў выканкам. Быў конкурс з пяці чалавек, але я прайшоў па-за конкурсам па званку сваяка.

Агледзеўся я ў выканкаме. Працы супроць маёй ранейшай прарабскай пасады вельмі паменела. Ніхто не надакучвае скаргамі на адсутнасць матэрыялу, на прастої тэхнікі, не трэба разбірацца з п'янымі, выдумваць «выкананую працу», каб закрыць «ліпавы» нарад. Але ж, гляджу: народ нешта не сядзіць, нешта мітусіцца, нешта выззваньвае па тэлефонах. Да тэлефоннай сувязі я зусім не прывык, больш напрамкі меў звычку гаварыць, але паволі пачаў асвойвацца. Гляджу, куды ні зойдзеш: адзін тэлефануе да гандляроў, другі—пра арганіку на дачу, трэці—пра бярвенні, цвікі. Бач ты, гараджане, а зямлю займелі, руплівымі сталі.

«Дай, думаю,—і я дачнікам стану, часу—процьма». Напісаў заяву—і да «самога». Ён глянуў, усміхнуўся:

—Ну вось, за розум узяўся. Дзейнічай, адабраю... І напісаў рэзалюцыю.

—Ты толькі, хлопец, не лезь у афіцыйнае садаводчае таварыства, там, ведаеш, таўкатня, як на кірмашы. То цень ад суседніх дрэў-кустоў перашкаджае, то брыдкае вока; то не тое прывёз, то не тады, як трэба, ды каб мала хто бачыў... Адным словам, пагледзі, прыкінь, дзе ты хочаш будавацца, ля якой рэчкі ці возера, каб экалогія як след, не бліжэй трыццаці кіламетраў ад горада, ды каб людзі ў бліжэйшай вёсцы былі не звяглівыя. Шукай такі куточак, каб душы быў адпачынак. Вось так. Нагледзіш—афармляй. Паможам...

—Дзе мне ўжо пра такі куточак марыць, хоць дзе грады зрабіць...

—Грады, ха-ха-ха! От «машкара»! Ну нічога, абаб'ешся—станеш «мухай», вялікай «мухай». Дапамагу і тут, мне памаглі—і я, дабро памятаю... Ну, усё.

...Землямер пры маім закідзе пра «райскі куток» толькі чмыхнуў. Але калі мы ўвечары выпілі «на брудэршафт» ды я намякнуў, што «сам» мне памагае, то назаўтра землямер здаўся і выклаў некалькі прывабных варыянтаў дачных месцаў. Хапіла нам з жонкаю розуму, але адзін куток мы ўсё ж абралі і атрымалі паперу на ўладанне ім.

А «сам» неяк стрэў мяне ў калідоры і мякка так выгаварыў:

—Ты мне «кадры» перастань спойваць, скажы ад мяне—і ўсё. Няхай аслухаюцца толькі...

От прыкупіў я трохі дошчачак, збіў будачку, на чатыры кійкі напяў поліэтыленавай плёнкі,—працую на градах, радуюся. Аднойчы завітаў у маю «радасць» «сам». Дык ён ледзь не ўпаў ад смеху, глянуўшы на мае забудовы. Адсмяяўшыся, сказаў:

—Ну, «машкара»! Доўга табе расці да «мухі», а я думаў—ты больш баявы... Але, лады, малюй свой дом-катэдж, заходзь—параімся...

Ну я з жонкай і намаляваў хатулю тры на чатыры метры, праўда, з ганкам, і пайшоў да «самога». Той зноў пасмяяўся, выкінуў наш «праект» і сказаў:

—Ты здольны стаць хоць невялікай «мушкай»? Ці не? Дакуль будзеш «мошкай», датуль будзеш блытацца ў павуцінні законаў, а як станеш «мухай», ды яшчэ вялікай—ты любы закон пратараніш, як хмару...

Карацей, памог «сам» скласці праект катэджа, ды такога, што ў мяне ад такой смеласці дух перахапіла. Але... «Мошкай» заставацца было ўжо няёмка і я выйшаў з высокага кабінета з цвёрдым намерам—пабудаваць, вырасці—ад «мошкі» хаця б да «мухі»...

І пачаў дзейнічаць. Калі мне казалі, што няма фундаментных блокаў ці лесу, я то просьбай, то грозьбай, спасылаючыся на «самога» іх усё-такі выбіваў. Трэба машыну—званю, і прама начальніку «фірмы». Аказваецца, і кран, і аўтамашыну можна было не выпісваць, а знайсці па камандзе ніколі не бачанага Рамана Раманавіча ці Пятра Пятровіча.

Аказваецца, і цэны ёсць для адных—адны, для другіх—другія, ну як цэны на «адыходы вытворчасці». І рабочых можна прыслаць з ПМК у звычайны рабочы дзень (мне яны абыходзіліся бутэлькай-другой)...

Гляджу—расце мой катэдж, як грыб пасля цёплага дажджу. Ажно радасна на душы.

Зноў заехаў «сам», пагледзеў будоўлю, сказаў:

—Ну гэта другая справа, хоць і не для «большой», але для маленькай «мухі» няблага...

Бач ты, я ўжо не «мошка», а «мушка». Радасна стала...

І году не прайшло, як справіў я наваселле ў новым катэджы на беразе рэчкі Прымачкі. Быў сваяк з вобласці, мой шэф. Драбяза? Не, не было.

Папівалі мы каньячок, у лазні парыліся, у рэчцы купаліся—асалода.

Мяне раз-пораз хвалілі:

—Малайчына, хлопец, будзеш ты «мухай», мо і вялікай, калі жыццё «паймеш».

—Ды я ўжо пастараюся,—сур'ёзна адказваў я. А што? Калі я толькі маленькай «мухай» стаўшы, столькі прыдбаў, то стаўшы вялікай «мухай»—ого як можна размахнуцца і...

Калі «прабіў» дзевятую мадэль «Жыгулёў», я яшчэ падрос у вачах сваіх «настаўнікаў»—сваяка і шэфа. Пэўна да «мухі» сярэдненькай велічыні.

А тут выбары наспелі—аж у Вярхоўны Савет. Ну, выбары і выбары—што мне да іх? Аднак, не. Выклікае аднойчы шэф, а там сваяк ужо сядзіць. Кажа:

—Пара настала, хлопча, стаць вялікай «мухай». Усё ў цябе тут ёсць: кватэра на чатыры пакоі на траіх, катэдж загарадны, «жыгулёнак», лодка, каханка. Але гэтага сённяйка мала, і не толькі табе, але й нам. Там, на «версе», трэба каб быў «свой» чалавек, паслізнёмся—каб выручыў. Нам, старым грэшнікам, ужо не прабіцца. А ты звідавоку не запэцканы...

—Дык супраць мяне ўжо стаіць кандыдатам сталічны паэт, другі—мясцовы інтэлігент. Куды мне супроць іх?..

—Ха-ха-ха! І гэтыя паэты, інтэлігенты—знаходка для цябе, а не сапернікі. З-за сваёй сарамлівасці яны сціплыя і без напору, мы возьмем іх нахабнасцю... Вось тут і дакажы, што ты даўно ўжо не «мошка»...

Закруцілася карусель... Каб вы толькі бачылі! «Пабілі»-такі ў выбарчай барацьбе тых гнілых інтэлігентаў-паэтаў, хоць яны размаўлялі па-беларуску, хоць абяцалі «нацыянальнае Адраджэнне», «суверэнітэт» і іншыя паветраныя шары. Я ж малаціў прама: абяцаў дровы—удаве і пенсіянеру, зарплату—настаўнікам, свабодны, без талонаў продаж гарэлкі, дзяржаўнай мовай пакінуць расейскую. Лаяў Гарбачова, пужаў дэмакратамі, абяцаў закідаць горад кубінскім цукрам, гандляваць трыццаццю разнавіднасцямі каўбасы, зямлі пад дачы—усім жадаючым, збудаваць новыя школы, зладзіць мафію, разагнаць «валасацікаў», у турму—хабарнікаў.

І—закусіла, ды так, што выбаршчыкі мяне адным махам унеслі ў Вярхоўны Савет. Цяпер я ўжо—вя-ялікая «муха». Я ўжо развярнуўся. Ну кватэру ў нашым правінцыяльным гарадку я перапішу на мамулю—нам жа палажана мець жыллё ў Менску. Самі прагаласавалі дружна на першым паседжанні Вярхоўнага Савета. Прынамсі, па маёй прапанове.

Увогуле, у мяне нямала задумак: як набіць юшку гэтым нацыяналам з БНФ, што так смачна гамоняць па-беларуску, галасаваць супроць іх прапаноў хоць і найразумнейшых, як прапіхнуць прывагызацыю для кемлівых людзей, якія законы «машкары» прытармазіць, дзе пасталіць закавыку, каб той закон не перашкодзіў сваім хлопцам. Са сваім сталым сваяком з вобласці і маім былым «шэфам» мы цэлую стратэгію выпрацавалі. Цяпер я праб'ю любое павуцінне законаў, як усякая вялікая «муха».

Та-ак-с, усё ж прыемна быць не «машкарой». Ды не ўсялякаму гэта дадзена!

**В. МАКРАНСКІ.**

*Стары Віцебск з глядзельнай вежы.*

## Вясёлы глобус

*—Послушай, Курт, а почему твоя собака перелистывает книгу? Она что, умеет читать?*

*—Нет, конечно. Просто она рассматривает картинки.*

* * *

*—Жена, где моя авторучка?*

*—У тебя за ухом.*

*—У меня нет времени для дискуссий. За каким ухом?*



**Наступны нумар газеты выйдзе 10 лютага 1993 г.**

Выбар

ЗАСНАВАЛЬНІК:
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар**
**Барыс ХАМАЙДА**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фатаграфіі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17, тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк) Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні ім. Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Паліграфісты: **В. Карунас, Т. Халеева, Л. Драздова, А. Каспаровіч, М. Аджанс, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 12.01.1993 г. у 17.15
Наклад 1500 экз.

**Цана 2 рублі.**